ЁСЦЬ ІДЭЯ!

# Аграгарадкі вакол...

*Галоўнае пытанне сельскай гаспадаркі — як узняць яе эфектыўнасць. Ці працей, як больш пастаўляць якасных і танных прадуктаў. Хачу прапанаваць свой варыянт вырашэння гэтай праблемы.*

**Першае.** Пачаць будаўніцтва эфектыўных фермерскіх гаспадарак, па тры-чатыры гаспадаркі побач. І размяшчаць іх недалёка ад перапрацоўчых прадпрыемстваў. Спытаеце, навошта так? Каб, з аднаго боку, наблізіць гаспадаркі і тэхніку да палёў, каб палеткі знаходзіліся побач з сядзібай, а з другога, каб недалёка былі і перапрацоўчыя вытворчасці.

У выніку мы атрымаем меншую трату паліва і часу на дастаўку прадукцыі на перапрацоўку, на вываз на палі арганікі і г.д. Больш танным стане будаўніцтва дарог, сістэм цепла- і водазабеспячэння. Такім чынам і знізім страты, і палепшым якасць прадукцыі.

**Другое.** Вядома, што глебы нашай краіны патрабуюць шмат арганікі. Таму кожная фермерская гаспадарка павінна трымаць 5—6 галоў буйной рагатай жывёлы, свіней, птушак... Вось вам і амаль дарэмная арганіка, і грошы ад рэалізацыі малака і мяса.

**Трэцяе.** Каб трымаць такую гаспадарку, патрэбна тэхніка. Але не цэлая машынна-трактарная станцыя, яна не пад сілу фермеру і нават тром-чатыром гаспадаркам. Таму варта вырабіць пару агрэгатаў, якія выконвалі б шэраг работ. Скажам, адзін мог бы ўбіраць збажыну, малаціць яе, перавозіць, выдаляць гной на ферме... Думаецца, Мінскаму трактарнаму заводу няцяжка скампанаваць такі агрэгат, машыну нават з таго, што ён ужо вырабляе.

Вось тры састаўныя часткі схемы, якія прапаноўваю. Мяркую, такія сістэмы фермерскіх аграгарадкоў вакол перапрацоўчых прадпрыемстваў дапаможа больш эфектыўна гаспадарыць на зямлі.

**Вячаслаў СУХАРЭБСКІ,**
**жыхар в.Русіно Баранавіцкага раёна.**

РОЗДУМ

# Носам араць будзем?

Неяк зайшла у нас такая гаворка: маўляў, пакуль не аддадуць калгасныя землі ва ўласныя рукі, дык ніякага толку не будзе. "А чым ты яе араць будзеш, носам?" — запытала мяне мая цётка.

Кожны раз, едучы да бацькі ў вёску, пазіраю на сядзібу аднаго фермера. Хата яго на краі вёскі, доўгі плот ды тэхніка пад адкрытым небам: трактар МТЗ, прычэп да яго, сеялка, культыватар... Колькі грошай прыйшлося яму аддаць за гэтую тэхніку? Ды што там купіць, утрымліваць яе ў працоўным стане чаго каштуе!

А колькі разоў у год патрэбна тая сеялка? Мо два тыдні ў год, а астатні час прастойвае пад адкрытым небам, іржавее. А прычэп? І ён патрэбен нячаста, мо некалькі разоў у месяц. Таксама і трактар працуе не кожны дзень. Так што не кожны рызыкне ўзяць зямлю, каб потым да яе купіць цэлую МТС! Каб потым балела галава і пра зямлю (насенне, угнаенне, догляд, праполкі, жніво), і пра тую МТС: паліва, запчасткі, рамонт.

І ўсё ўпіраецца ў грошы. Дзе іх узяць, калі цэны на зерне, мяса, малако фіксаваныя і нізкія, а на прамысловыя тавары — свабодныя і высокія?

Дзе ж вынік? Яго знайшлі ў Латвіі. Пра гэта мне распавёў мой старэйшы брат, які там раней жыў. Там калгасную зямлю аддалі ва ўласныя рукі. Атрымалі хто 10, хто 20, хто 50, а хто і 100 гектараў. А механізаваныя двары, якія былі ў кожным калгасе, таксама аддалі ва ўласную маёмасць. Цяпер у зямлі ёсць гаспадар і ў тэхнікі ёсць гаспадар. У аднаго галава баліць пра зямлю, у другога — пра тэхніку. Трэба, скажам, табе вясной зямлю ўзараць — дамаўляйся з тымі, у каго тэхніка ёсць. Прыязджае трактар, арэ, разлічвайся за працу — і ўсё у парадку. Танна, практычна.



А дзе ўзяць грошы на насенне, угнаенне, жывёлу? У банку. Банк ацэньвае вашу зямлю: скажам, за адзін гектар — 1000 долараў, — і дае гэтыя грошы ў крэдыт, з разлікам, што вы іх вернеце. Вы купляеце ўсё неабходнае, нешта вырошчваеце, прадаяце, атрымліваеце прыбытак і паціху вяртаеце крэдыт банку. І вам прыбытак, і тым, у каго тэхніка, і банку, і ўсяму грамадству.

"Добра, — скажа нехта, — а калі я стары і мне ўжо не да гэтага?" Нічога страшнага. Заўсёды знойдуцца жадаючыя купіць альбо ўзяць у арэнду ваш пай, вашу зямлю. Тады да пенсіі будзеце мець яшчэ дадатак грошай ад зямлі. Так што няхай ніхто вас не пужае, паважаныя чытачы, зямлёю, што прыйдзецца, маўляў, носам яе араць. Калі зрабіць усё з розумам, як у людзей, то ўсё будзе добра. Але гэта будзе хутчэй за ўсё не пры гэтай уладзе. Бо яна вельмі трымаецца за калгасы. А зямля ў гэты час, няўгноеная, недагледжаная, аддае апошнія сілы, зарастае бур'янам, пырнікам...

**Павел КУНІЦКІ.**
*г.Пінск.*

МИРОВЫЕ ТЕНДЕНЦИИ

## Несмотря на дефицит госбюджета, французы снижают налоги

Французское правительство подтвердило свое намерение на три процента снизить ставку подоходного налога. По словам премьер-министра Франции Жан-Пьера Раффарена, этот шаг призван содействовать оживлению экономической конъюнктуры в стране.

Правительство Раффарена исходит из того, что в будущем году экономика Франции вырастет на 1,7 процента. Однако ведущие экономисты считают эту оценку слишком оптимистичной. По мнению экспертов, экономический рост во Франции в будущем году составит всего полпроцента. Так что экономике страны очень необходимо оживление.

## Японцы наступают

В августе 2003 года автопроизводителям Соединенных Штатов был нанесен чувствительный удар. Впервые в истории Америки японский автомобилестроительный концерн Toyota продал больше машин, чем американский концерн Chrysler. Сбыт продукции японского концерна в августе текущего года увеличился на 11,5 процента, в то время как сбыт совместного американо-германского концерна Daimler-Chrysler сократился на 6 процентов по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

Вплоть до последнего времени концерн Chrysler занимал третье место среди крупнейших автопроизводителей Америки, уступая только двум бесспорным лидерам рынка — концернам General Motors и Ford. Однако теперь ситуация изменилась: все больше американцев отдают предпочтение машинам иностранного производства. И теперь на третье место по объему продаж вышел японский концерн. Не отстают от японцев и немецкие производители. В августе в Америке повышенным спросом пользовались автомобили марок Audi и BMW.

## «Мерседесы» made in China

Германо-американский автомобилестроительный концерн DaimlerChrysler объявил о своем намерении приступить к сборке машин марки "Мерседес" в КНР. Соответствующее соглашение подписано в Пекине председателем правления DaimlerChrysler Юргеном Шремпом и руководством китайского партнера немцев — фирмы Beijing Automotive Industry.

Сделка предполагает инвестиции в перестройку и модернизацию имеющихся у партнеров заводов в размере 1 миллиарда евро. Первые "Мерседесы" сойдут с китайских конвейеров в 2005 году. Речь идет о машинах классов E и C. До сих пор автомобили всемирно известной марки только импортировали в Китай, а совместное предприятие Daimler-Chrysler и Beijing Automotive Industry занималось производством джипов, которые разрабатывало и выпускало американское подразделение концерна — Chrysler. И вот теперь дошла очередь до "Мерседесов". По словам Юргена Шремпа, китайский рынок играет ключевую роль в стратегии его концерна в Азии. А потому только лишь "Мерседесами" дело не ограничится: Daimler-Chrysler планирует начать в КНР и производство грузовиков. Соответствующее соглашение также подписано. Впрочем, для реализации обоих документов требуется еще одобрение руководства КНР. Напомним, что лидирует на китайском автомобильном рынке немецкая же компания Volkswagen. Укрепляет свои позиции в Китае и BMW.

ВЗГЛЯД ОТТУДА

## Счет по-белорусски. Что это такое?

*То, о чем не раз писала "Народная воля", по существу подтвердили и специалисты одной из самых авторитетных международных организаций — Международного валютного фонда. Речь идет о, мягко выражаясь, не совсем корректных данных белорусской статистики.*

Как известно, миссия МВФ работала в Минске с 1 па 8 сентября. Рассказывая журналистам на пресс-конференции о выводах после изучения белорусской экономической действительности, ее руководитель Томас Ричардсон заметил, что существует методологическое расхождение при расчетах роста реального валового внутреннего продукта (ВВП) в Беларуси с международной практикой. По его словам, если применять международную методологию подсчетов, то объем ВВП Беларуси будет примерно на 1,5 процента меньше.

В связи с этим российское информационное агентство ИТАР—ТАСС сообщает: представитель МВФ выразил сомнения по поводу методологических расчетов валового внутреннего продукта. Но даже по белорусской методологии экономический рост в Беларуси самый низкий в СНГ, за исключением Киргизии и Узбекистана.

# Чаму растуць цэны на кватэры

*Кватэры робяцца ўсё больш дарагімі. Чаму? І калі гэта скончыцца? Адказы на пытанні хацела б прачытаць менавіта ў вашай газеце, бо пераканалася, што яе эканамічныя прагнозы найбольш дакладныя.*

***Вольга КРУТАЛЕВІЧ, Мінск.***

Так, цэны на жыллё імкліва растуць. Калі год таму квадратны метр жылой плошчы ў Мінску каштаваў менш за 400 долараў, дык цяпер 500, а то і болей. Чаму?

Якія толькі прычыны ні называюць некаторыя так званыя эканамісты і аналітыкі. Кажуць, што паўплывалі рост курсу еўра, павышэнне коштаў на энерганосьбіты, палітыка імпартазамяшчэння і г.д. Гледзячы ў столю, можна "высмактаць" з пальца яшчэ з дзесятак падобных прычын.

Але ж справа ў іншым. Галоўная прычына навідавоку. Яна ў тым, што ў краіне стала менш будавацца жылля. Калі ў 1990 годзе ў Беларусі было ўведзена ў дзеянне 5282 тысячы квадратных метраў агульнай плошчы жылля, дык летась — 2825 тысячы квадратных метраў, або амаль у два разы менш. Прычым летась пабудавана кватэр на 6 працэнтаў менш, чым пазалетась. А чарга на атрыманне жылля не зменшылася. У ёй столькі ж жадаючых, колькі было і дзесяць гадоў таму.

Узнік вялікі разрыў паміж прапановай і попытам. Вось і растуць цэны. І будуць расці.

Важна зазначыць, што ў попыце на жыллё намеціўся перакос: павышаны попыт на аднапакаёўкі і дзвюхпакаёўкі. Прычына яго таксама вядомая — надта шпаркі рост камунальных плацяжоў. Плаціць за абслугоўванне трох- і чатырохпакаёвых кватэр стала не па кішэні не толькі пенсіянерам, але і працаўнікам многіх сфер, дзе заробкі даволі нізкія. Вось такія працаўнікі ды пенсіянеры вымушаны будуць прадаваць свае прасторныя кватэры ды набываць меншыя.

Паколькі рост камунальных тарыфаў чакаецца і далей, дык усё больш людзей вымушаны будуць развітвацца з трох- і чатырохпакаёвымі кватэрамі і набываць меншыя. А таму попыт на невялікія кватэры будзе толькі павышацца. А значыць, будуць расці і цэны на іх. Не зменшацца яны і на трох- і чатырохпакаёвыя. Сітуацыя ў нашым бізнесе такая, што мала прыцягальных сфер для інвестыцый, па сутнасці, мала куды можна ўкладваць грошы. Вось тыя, хто іх мае, набывае кватэры, бо гэта — выгаднае "ўкладанне грошай". Многія прадпрыемствы не маюць вялікіх перспектыў, банк можа "лопнуць" і тады — бывай грошы тых, хто паклаў у яго свае зберажэнні. А кватэру заўжды можна прадаць, прычым па добрай цане.



Даволі негатыўна можа паўплываць на сітуацыю на рынку жылля пераход на расійскі рубель. З яго ўвядзеннем да нас хлыне расійскі капітал, які можа хутка скупіць усё лепшае, у тым ліку і добрыя кватэры. Бо грошай у расійскіх алігархаў хапае. Так што нашыя лепшыя кватэры, якія вымушаны будуць прадаваць пенсіянеры і працаўнікі з нізкімі заробкамі, а таксама кватэры ў элітных дамах, відаць, хутка могуць аказацца ў абслугі расійскіх алігархаў, якая панаедзе сюды праводзіць прыватызацыю ды перарабсталёўваць на свой лад нашы лепшыя заводы.

Калі ж цэны на жыллё пачнуць паніжацца, ці, як пытае наш чытач, калі "гэта скончыцца"? Усё толькі пачынаецца. Так што на таннае жыллё спадзявацца ў бліжэйшы час не даводзіцца.

**Алесь ДРАБЧУК.**

# Колькі трэба працаваць беларусу, каб зарабіць на адзін біг-мак?

*Для таго каб зарабіць на біг-мак, жыхару сталіцы Кеніі Найробі сёння трэба працаваць тры гадзіны, жыхару Лос-Анджэлеса альбо Чыкага — усяго дзесяць хвілін. Гэты паказчык, які ў эканамічных даследаваннях так і завецца — "індэкс біг-мак", найлепшым чынам адлюстроўвае ўзровень жыцця ў розных краінах свету. Брытанскі часопіс Economist публікуе гэты індэкс пачынаючы ад 1986 году.*

Часопіс Economist друкуе індэкс біг-мак у выглядзе табліцы. Яна ўяўляе сабой як бы перагорнутую піраміду, у самым нізе якой — Злучаныя Штаты, а на самым версе — Кенія, Пакістан і Індыя. Табліца пабудаваная на падставе звестак швейцарскага інвестыцыйнага банка UBS — аднаго з найбуйнейшых у свеце.

Гэты банк ужо шмат гадоў займаецца даследаваннем пакупніцкай здольнасці — гэта значыць, суадносін зарплаты і цэн — у розных сталіцах свету. Вынікі гэтых даследаванняў можна бачыць, дарэчы, на сайце www.ubs.com.

Сёлета, паводле індэкса біг-мак, самы лепшы паказчык пасля амерыканскіх гарадоў, пра якія было сказана напачатку, у швейцарскім Цюрыху: 14 хвілін, а таксама ў швейцарскім жа Базэлі і ў сталіцы Аўстрыі Вене — 15 хвілін. Са сталіц Цэнтральнай і Усходняй Еўропы найлепшы паказчык у Празе — 42 хвіліны. У Браціславе індэкс роўны 54, а ў Бухарэсце і Кіеве амаль аднолькавы паказчык — прыблізна гадзіна 20 хвілін.

Натуральна, хацелася б даведацца — а які ж індэкс у Мінску?

На жаль, Мінск у спісе сталіц, якія прыводзіць UBS, адсутнічае. Справа ў тым, што даследаванні праводзяцца толькі ў тых краінах, якія самі выказваюць жаданне ў іх удзельнічаць.

Аднак можам паспрабаваць падлічыць хаця б прыблізна. Паводле звестак Міждзяржаўнага статыстычнага камітэта СНД, сярэдняя намінальная зарплата ў Беларусі ў першай палове года складала 112 долараў за месяц. Калі ўлічыць, што біг-мак у мінскім McDonald's каштуе 2740 рублёў (а гэта ў пераліку прыкладна 1 долар 30 цэнтаў), дык значыць, сярэднестатыстычны беларускі працаўнік, які працаваў 24 дні па восем гадзін, зарабляе гэты біг-мак больш за 2 гадзіны. Гэта менш, чым робіць гэта жыхар Найробі, але больш, чым працоўны калумбійскай Багаты.

Чаму ўсё-такі адмыслоўцы ўзялі за адзінку падліку кошт біг-мака?

Эканамісты лічаць гэты паказчык зручным, паколькі біг-мак — гэта стандартная ежа і яго купляюць фактычна ва ўсіх краінах свету. Пры гэтым цана яго ўнутры адной краіны таксама, як правіла, стандартная і яе лёгка падлічыць у доларах.

Дарэчы, калі ўзяць блізкі да індэкса біг-мак паказчык — колькі трэба працаваць, каб зарабіць на кілаграм хлеба, тут сітуацыя для беларусаў выглядае крыху лепей — прыблізна 30 хвілін. У Таліне гэты паказчык — 34 хвіліны, у Рызе — на дзесяць хвілін менш, у тым самым Лос-Анджэлесе — 16, а ў Цюрыху — усяго сем.

**Віталь ТАРАС,**
**Радыё "Свабода".**
*Прага.*

ПАДУМАЕМ

## У суседзяў цэны зніжаюцца, у Беларусі — растуць

Нягледзячы на рэзкае зніжэнне, інфляцыя ў жніўні была ў Беларусі вышэйшая, чым у іншых краінах СНД і Балтыі.

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у апошні месяц лета спажывецкія цэны ў краіне ўзраслі на 0,2 працэнта супраць 1,5 працэнта ў ліпені. Паводле звестак БелаПАН, на 0,2 працэнта павялічыліся цэны і ў Казахстане. У астатніх краінах былога СССР яны знізіліся: напрыклад, у Расіі — на 0,4 працэнта, у Кіргізіі і Літве — на 0,7, ва Украіне — на 1,7, у Арменіі — на 2,3. У Эстоніі цэны не змяніліся.

З пачатку года спажывецкія цэны ў Беларусі ўзраслі на 16,4 працэнта, у Расіі — на 8,3, ва Украіне — на 2,7, у Казахстане — на 2,4, у Кіргізіі — на 0,1, у Эстоніі — на 1,3 (жнівень 2003 г. да жніўня 2002 г.). Ва Узбекістане цэны знізіліся з пачатку года на 0,7 працэнта, у Арменіі — на 1,4, у Літве — на 1,6.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Аб чым гаворыць сальда?

Афіцыйныя прапагандысты трубяць пра поспехі знешняга гандлю. Сваю песню падмацоўваюць фактамі.

Так, знешнегандлёвы абарот Беларусі за сем месяцаў гэтага года склаў 11 млрд. 778,2 млн. долараў ЗША і павялічыўся, у параўнанні са студзенем—ліпенем 2002 года, на 29,2 працэнта. Тавараабарот з краінамі СНД склаў 7 млрд. 273,8 млн. долараў, ці 61,8 працэнта агульнага тавараабароту краіны, з астатнімі краінамі — 4 млрд. 504,4 млн. долараў, ці 38,2 працэнта агульнага тавараабароту.

Здавалася б, варта толькі радавацца. Ды добры настрой знікае, як толькі пачынаеш знаёміцца з сальда гандлю. Яно, як гэта ўжо павялося, адмоўнае. На гэты раз у памеры 664,4 млн. долараў. З краінамі Садружнасці сальда адмоўнае ў памеры 1 млрд. 501,8 млн. долараў, у тым ліку з Расійскай Федэрацыяй — 1 млрд. 554,3 млн. долараў. З краінамі паза СНД сальда станоўчае ў памеры 837,4 млн. долараў. У параўнанні са студзенем—ліпенем 2002 года станоўчае сальда з гэтай групай краін павялічылася на 268,5 млн. долараў.

Даволі красамоўныя лічбы. Яны сведчаць аб тым, што гандаль з заходнімі краінамі прыносіць краіне такую патрэбную цвёрдую валюту, а гандаль з Расіяй прыводзіць да таго, што ўся гэтая заробленая валюта перакачоўвае да ўсходняй суседкі і яе нават не хапае, каб падтрымліваць валютны баланс. Вось такі, значыць, гандаль з Расіяй.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## НАТО выдаткуе 200 тысяч долараў

Навуковы камітэт НАТО выдаткуе 200 тысяч долараў для падтрымкі сумеснага праекта Нацыянальнага цэнтра інфармацыйных рэсурсаў і тэхналогій (Беларусь) і Універсітэта Мангейма (Германія) па развіцці навукова-інфармацыйнай камп'ютэрнай сеткі ў пяці абласных цэнтрах Беларусі. Гэты праект будзе рэалізаваны на базе сеткі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі BASNET. Пра гэта паведаміла рэдакцыя афіцыйнага сайта Міністэрства абароны рэспублікі.

Асноўная мэта праекта — стварэнне рэгіянальных сеткавых вузлоў для забеспячэння доступу арганізацый сферы навукі, адукацыі, аховы здароўя, іншых некамерцыйных арганізацый да рэспубліканскіх і сусветных навукова-інфармацыйных і адукацыйных рэсурсаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ВОПРОС—ОТВЕТ

# Что такое ВТО и зачем она нужна?

*Многие читатели спрашивают: "Что такое ВТО? Зачем она нужна? За что ее критикуют некоторые экономисты?" Поскольку и Беларусь, по словам ее лидеров, готовится вступать в эту организацию, расскажем о ней.*

Всемирная торговая организация (ВТО) — международный орган, осуществляющий надзорные функции в мировой экономике и торговле. В ее задачи входит отмена импортных тарифов и других барьеров, препятствующих свободной торговле, а также наблюдение за выполнением существующих договоров. По мнению ведущих мировых экономистов, ВТО способствует эффективности торговли в мире и повышению уровня жизни в тех странах, которые входят в нее. Поэтому и стремятся в нее Украина, Россия и другие наши соседи.

ВТО также является посредником в разрешении торговых споров между правительствами стран мира. Решения ВТО абсолютны и распространяются на все страны—члены организации. Поэтому, если речь заходит, скажем, о споре между США и ЕС о торговле бананами или говядиной, именно ВТО выступает судьей между ними. Члены ВТО имеют право защищать свои интересы, вводя торговые санкции против тех государств, которые нарушили те или иные правила.

Штаб-квартира организации находится в Женеве. Она была основана в 1995 году, придя на смену другой международной организации — ГАТТ (Генеральное соглашение по торговле и тарифам). ГАТТ была основана параллельно со Всемирным банком и Международным валютным фондом в 1948 году: тогда 23 страны мира подписали договор о снижении таможенных пошлин. По сравнению с ГАТТ в ведении ВТО находится намного больше вопросов. В то время как ГАТТ регулировала вопросы, связанные с производством товаров, то ВТО также покрывает и рынок услуг, например, телекоммуникационный и банковский сектор.



Конференции ВТО сопрвождаются акциями протеста противников глобализации и требуют повышенных мер безопасности. **На фото:** *полицейское оцепление во время проведения саммита ВТО в США.*

В настоящее время в ВТО входят 144 государства. Китай официально стал членом организации в декабре 2001 года после 15 лет переговоров. Россия также хочет вступить в ВТО, однако для этого ей нужно убедить США и ЕС в том, что ей удалось провести все необходимые реформы. Высший правящий орган ВТО — министерская конференция. Ее встречи проходят раз в два года. Среди прочего, на ней избирается генеральный директор организации. Конференция также следит за работой Генерального совета ВТО. В компетенцию Генерального совета входят вопросы, связанные с текущей работой организации. В совет входят послы стран-членов, которые также формируют различные комитеты по профильным вопросам.

ВТО сильно критикуют. Ролью этой организации недовольны многие. Главным образом они озабочены последствиями, которые несут с собой свободная торговля и экономическая глобализация миру. Существует четыре основных пункта для критики:

* ВТО считают слишком могущественной, поскольку она может заставить правительства суверенных государств изменить законы, если посчитает их нарушающими правила свободной торговли.

* ВТО обвиняют в том, что она является организацией богатых и для богатых и что она не уделяет должного внимания проблемам развивающихся стран. Например, богатые страны до сих пор не открыли свои рынки сельскохозяйственной продукции и текстилю из бедных стран.

* ВТО равнодушна к тому, какое влияние оказывает свободная торговля на права рабочих, детский труд, окружающую среду и здоровье.

* ВТО недостаточно открыта и демократична, поскольку ее слушания и обсуждение торговых споров проходят при закрытых дверях.

В свою очередь сторонники ВТО утверждают обратное. Они говорят, что законы и устав ВТО пишутся коллективно странами-членами, большая часть которых демократические. Кроме того, руководство организации также избирается путем открытого голосования. Они также утверждают, что, распространяя свободную торговлю по всему миру, ВТО в реальности способствует повышению уровня жизни на планете.

ЭКОНОМИЧЕСКОЕ ОБОЗРЕНИЕ

## Оффшорный сбор

**По поручению правительства Минэкономики разрабатывает проект правового акта, предусматривающего внесение изменений в условия взимания оффшорного сбора.**

Правила его взимания установлены Указом президента РБ от 12 марта 2003 г. № 104. Сейчас предлагается отменить взимание оффшорного сбора при перечислении резидентами дивидендов учредителям, зарегистрированным в оффшорных зонах, а также платежей в оффшорные зоны за поставленное по договорам лизинга оборудование. Одновременно рассматривается целесообразность принятия такого же решения в отношении других белорусских организаций, созданных с участием иностранного капитала, и сохранения оффшорного сбора при осуществлении платежей в счет оплаты поставок в Республику Беларусь других видов товаров и услуг, имеющих большое значение для экономики страны.

## О ценах на медуслуги

**Минэкономики разработало Инструкцию о порядке формирования, утверждения и применения цен на медуслуги, оказываемые юридическими лицами и индивидуальными предпринимателями.**

Главным достоинством документа авторы считают предложение ввести единый порядок формирования цен на платные медуслуги. При этом рентабельность при формировании цен будет исчисляться как отношение себестоимости услуги без учета стоимости используемых лекарственных средств, изделий медназначения к прибыли (установлено, что она не должна превышать 30%). А вот стоимость лекарственных средств и изделий, используемых при оказании данной услуги, предлагается либо включать в цену услуги, либо оплачивать дополнительно по розничной цене. Как подчеркивают в Минэкономики, работать теперь станет проще.

## Контроль и аудит

**На стадии разработки в Минфине находится проект Указа президента, закрепляющий возможность создания унитарных предприятий (УП), которые смогут заменить ныне действующие службы ведомственного контроля в структуре республиканских органов государственного управления, а также организаций, подчиненных правительству.**

При создании таких УП их основной задачей будет осуществление ведомственного контроля вышеназванных государственных организаций. Данные УП будут также наделены правом оказывать услуги сторонним организациям по внешнему аудиту. Все эти УП будут находиться на полном хозяйственном расчете и финансироваться за счет отчислений подведомственных структур, находящихся в подчинении республиканских органов государственного управления или входящих в состав организаций, подчиненных правительству. Данный проект предполагает внесение изменений в Указ президента от 25 марта 2000 г. № 293 "О совершенствовании ведомственного контроля".

**Информационное агентство Владимира Гревцова.**

Народная Воля 20 ВЕРАСНЯ 2003 г.

ДАЙДЖЕСТ

## Архитектор «нового WTC» нашел способ оставить Ground Zero в неприкосновенности



Немецкий архитектор Даниэль Либскинд, чей проект победил на конкурсе по застройке Ground Zero, согласился изменить план согласно пожеланиям родственников жертв терактов 11 сентября. Родственники требуют оставить в неприкосновенности котлован, который остался на месте башен WTC. Архитектор заявил, что он останется в неприкосновенности. Либскинд "вписал" его в ансамбль, не изменив. Кроме того, главная часть будущего комплекса — огромная башня, которая будет выше разрушенных зданий, несколько изменилась относительно первоначального проекта — она стала тоньше и изящней, сообщил архитектор.

Все остальные пять зданий комплекса также изменили свой внешний облик и местоположение — к югу от центральной башни, на месте WTC будет стоять лишь одно из них. Согласно предыдущему проекту Либскинда, пять строений должны были окружать новую башню со всех сторон. Однако родственники жертв не торопятся заявлять о своей победе — не все их пожелания были выполнены. В частности, в проекте не были учтены их пожелания относительно линий подземки. Пять линий существовали и раньше, но власти решили добавить еще одну. Кроме того, родственники решительно протестуют против постройки большой автобусной станции на месте WTC.

## В Боснии нашли крупнейшее массовое захоронение

Рядом с городом Зворник на востоке Боснии обнаружено массовое захоронение останков людей, убитых во время Боснийской войны 1992—1995 годов. Криминалисты уже откопали 359 тел и ожидают найти еще около 100. В боснийской прокуратуре сообщили, что захоронение является крупнейшим из всех, найденных в стране до сих пор. Судя по документам, найденным у убитых, в братской могиле похоронены мусульмане, пропавшие без вести, когда территорию восточной Боснии заняли войска боснийских сербов и сербские нерегулярные военизированные формирования. Как сообщили криминалисты, в братской могиле найдены тела девяти детей в возрасте от одного до 12 лет.

## «Изабель» присвоена категория «тропического шторма»

Национальный центр по изучению ураганов в Майами, штат Флорида, присвоил урагану "Изабель" категорию "тропический шторм". По последним данным, жертвами урагана "Изабель" стали три человека. Два из них погибли в автокатастрофах, не справившись с управлением автомобилем в крайне тяжелых погодных условиях, еще один — сотрудник муниципальной службы — погиб во время попытки отремонтировать электрооборудование.

Президент США Джордж Буш объявил штаты Северная Каролина и Вирджиния, через территорию которых прошел ураган "Изабель", зоной бедствия. В штатах Делавэр, Мэриленд, Пенсильвания и Нью-Джерси объявлено чрезвычайное положение. Более 2 миллионов потребителей остались без электричества в штатах Северная Каролина и Вирджиния. Около 430 тысяч жителей штата Мэриленд, 82 тысячи — в округе Колумбия и 10 тысяч в штате Нью-Джерси также остались без света.

## Гавел, Валенса и Генц решили свергнуть Кастро




Бывшие президенты Чехии, Польши и Венгрии начали кампанию, целью которой является свержение коммунистического правительства Кубы, возглавляемого Фиделем Кастро. Вацлав Гавел, Лех Валенса и Арпад Генц обратились к европейским странам с призывом основать фонд для финансирования кубинской оппозиции. По мнению троих экс-президентов, европейские государства занимают слишком мягкую позицию в отношении Кубы. "Европа должна дать ясно понять, что Фидель Кастро — диктатор, и что диктаторский режим не может стать партнером демократических стран до тех пор, пока он не начнет процесс политической либерализации", — говорится в письме экс-президентов.

Гавел, Валенса и Генц сравнивают ситуацию на Кубе с ситуацией в Восточной Европе конца 1980-х годов. Они считают, что кубинские коммунисты не продержатся у власти долго. "Фидель Кастро хорошо понимает, что однажды революция умрет вместе с ним", — заявили бывшие лидеры Чехии, Польши и Венгрии. Авторы письма призвали европейские страны и США выработать единую политику в отношении Кубы. При этом они осудили введенные американской администрацией экономические санкции против Гаваны. По мнению Гавела, Валенсы и Генца, санкции дают повод Фиделю Кастро всегда ссылаться на сложные экономические условия, сложившиеся на Кубе из-за политики США.

## Сорос разоблачил политическую доктрину Буша

Администрация президента США Джорджа Буша проводит политику, которая "вызывает аллергию" у других стран, а также ставит под сомнение американские ценности и доминирующую роль США в мире. Об этом заявил американский миллиардер и основатель фонда "Открытое общество" Джордж Сорос на встрече, организованной при поддержке Госдепартамента США. Как считает Сорос, доктрина администрации Буша состоит из двух основных пунктов: США должны предпринимать все усилия, чтобы сохранить свое влияние в мире, и США имеют право наносить превентивные удары. Нынешних политических лидеров Америки Сорос называет "проповедниками идеологии превосходства". "Их точка зрения в основном базируется на том, что международные отношения являются отношениями силы, которая управляет международным правом", — заявил он.

По словам Сороса, позицию США можно описать фразой из "Скотного двора" Джорджа Оруэлла: "Все животные равны, но некоторые равнее". "Мы всегда добивались цели средствами, абсолютно противоположными нынешним, обращая внимание на мнения и интересы других. Сейчас наша возможность сохранить эту роль — под большим вопросом", — заявил миллиардер.

## Итальянские судьи протестуют против бесцеремонных высказываний Берлускони

Итальянские судьи провели массовую 15-минутную акцию протеста, вызванную высказываниями премьер-министра страны Сильвио Берлускони. Служащие судебной системы страны прекратили заседания и расследования, чтобы зачитать заявление, осуждающее частые ожесточенные выпады главы правительства в свой адрес. "Мы имеем дело не просто с нападками на мировых судей. Эти высказывания ставят под сомнение фундаментальные ценности объективности суда и подрывают доверие людей к судебной системе", — гласит заявление.

Акция протеста судей вызвана продолжительной кампанией, которую проводит премьер-министр Италии Сильвио Берлускони. Он обвиняет суд в политических гонениях. Итальянский премьер уже называл некоторых судей требующей удаления "раковой опухолью", "душевнобольными" и "антропологически отличными от остальных представителей человеческой расы".

# Дзесяць пытанняў Мадлен Олбрайт

*Мадлен Олбрайт стала першай жанчынай, якая заняла пасаду дзяржаўнага сакратара ЗША. Напярэдадні выхаду ў свет кнігі сваіх мемуараў "Мадам дзяржсакратар", у якой распавядаецца аб усім — пачынаючы з таго, што яе бацькі, выхадцы з Чэхіі, былі яўрэямі і заканчваючы яе гадамі працы ў адміністрацыі прэзідэнта Клінтана, Олбрайт згадзілася пагутарыць з журналістам "TIME" Дж.Ф.О.Макалістарам.*




**— У адрозненне ад іншых мемуараў, кніга "Мадам дзяржсакратар" не падобна на праяву помслівасці. Калі вашай мэтай не была помста, тады што?**

— Штодзённая выпрацоўка палітыкі звязана з пастаяннымі спрэчкамі. Мы прапануем правільны падыход і правільны адказ, і бываюць не вельмі прыемныя моманты. Але ў выніку ты ацэньваеш канчатковы прадукт. Супярэчлівасці, якія былі ў нас (у адміністрацыі Клінтана), — дробязі ў параўнанні з тым, што я бачу ў адміністрацыі Буша. І я падумала: не, помста тут не патрэбная.

**— Вы пагарджалі пагрозай Усамы бен Ладэна і пераклалі гэтую праблему выключна на адміністрацыю Буша?**

— Прэзідэнт Клінтан з самага пачатку засярodзіў увагу на праблеме тэрарызму. У ЦРУ быў створаны спецыяльны аддзел па супрацьдзеянні Усаме бен Ладэну, і прэзідэнт санкцыяніраваў прымяненне супраць яго крайніх мер. У 1998 годзе, пасля тэракта ў амерыканскіх амбасадах у Афрыцы мы нанеслі ўдар па лагеры Усамы бен Ладэна, і мы былі побач з ім. У прэзідэнта Буша ў Афганістане было 8 тысяч салдат, але яны яго да гэтай пары не знайшлі.

**— Ці павінны былі ЗША ісці вайной на Ірак?**

— Я заўсёды верыла ў тое, што паслуговы спіс Садама апраўдвае актыўнае дзеянне супраць яго. Але я не лічыла Садама немінучай пагрозай. Я думаю, што з усім гэтым крызісам справіліся дрэнна.

**— Ускладніла ці аблегчыла вайна ў Іраку вырашэнне праблемы тэрарызму?**

— Адміністрацыя напрамую звязвае 11 верасня з Садамам. Там гавораць, што Ірак, гэта гняздо тэрарызму. Я так не лічу, хоць і згодна са значнай часткай крытыкі ў адрас Садама. Затое цяпер Ірак фактычна стаў расаднікам тэрарызму.

**— Што павінны рабіць ЗША ў наступную чаргу?**

— Шчыра кажучы, калі б прэзідэнтам быў Альберт Гор, мы б не трапілі ў такі хаос. Але мы ўжо ў ім і не можам пацярпець няўдачу. Я вельмі спадзяюся на тое, што ААН прыме рэзалюцыю, якая пакіне за ЗША ваеннае камандаванне, але каардынацыю палітычнай і гуманітарнай дзейнасці перадасць высокапастаўленаму прадстаўніку ААН, таму што з гэтым ААН заўсёды добра спраўляецца.

**— Знешняя палітыка Буша пачалася з крокаў, супрацьлеглых палітыцы Клінтана практычна ва ўсіх сферах: гэта Блізкі Усход, Паўночная Карэя і Кітай. Зараз падзеі адкінулі адміністрацыю назад, да адміністрацыі Клінтана. Гэта не выклікае ў Вас зларадства?**

— Не. Я для гэтага занадта добры і вялікадушны чалавек.

**— Ці права адміністрацыя Буша, што спрабуе адсунуць Арафата ў бок?**

— Я лічу гэта вялікай памылкай. Гэта не азначае, што весці з ім перамовы — вялікая асалода. Я не думаю, што ён — сіла дабра, але ён частка блізкаўсходняй гісторыі.

**— Шарон — гэта вялікая перашкода міру?**

— Мне хацелася б верыць, што ён можа стаць тым, кім стаў Ніксан для зносін з Кітаем. ЗША павінны гарантаваць, што абодва бакі сапраўды зробяць тое, да чаго іх прымушае "дарожная карта". Але гэта патрабуе пастаяннай увагі адміністрацыі на самым высокім узроўні. Магчыма, я і памыляюся, але гэтага не адбываецца.

**— Што значыла для Вас быць жанчынай на пасадзе дзяржсакратара?**

— Я думаю, што гэта дапамагло мне ўстанавіць асабістыя зносіны. І я вынесла жаночыя пытанні ў цэнтр нашай знешняй палітыкі.

**— Вы вядомыя сваёй любоўю да брошак, кожная з якіх адпавядае якой-небудзь палітычнай заяве. Колькі іх у Вас?**

— Шчыра кажучы, не ведаю. Можа быць, сотня. Думаю, што я ўзнавіла касцюмна-ювелірную індустрыю.

**Дж.Ф.О.МАКАЛІСТАР.**
*"Таймс".*

## Палітычныя вязні з краін Цэнтральнай Азіі прэтэндуюць на прэмію Сахарава

БРУСЕЛЬ. Чацвёра палітычных вязняў з Туркменіі, Узбекістана, Кыргызстана і Казахстана ўключаны ў спіс кандыдатаў на атрыманне Сахараўскай прэміі 2003 года, якую дае Еўрапейскі Парламент. Яны былі асуджаны за апазіцыйную дзейнасць і барацьбу за дэмакратычныя рэформы ў сваіх краінах. Іншыя кандыдаты на атрыманне гэтай прэміі — генеральны сакратар ААН Кофі Анан, а таксама супрацоўнікі ААН, якія загінулі ў час выбуху ў штаб-кватэры ААН у Багдадзе.

## Тры салдаты ЗША забіты каля горада Цікрыт

БАГДАД. У Іраку, недалёка ад горада Цікрыт, забіты тры салдаты ЗША, а яшчэ два паранены. Жаўнеры трапілі ў засаду, калі ахоўвалі месца, дзе, як меркавалася, была схавана зброя. Між тым амерыканскае камандаванне разглядае магчымасці вываду войска з некаторых іракскіх гарадоў, калі будзе вядома, што кантроль там змогуць весці толькі іракскія Узброеныя сілы. Камандуючы войскам ЗША ў Іраку генерал Рыкарада Санчэс сказаў: "У гэтых гарадах вы ўбачыце (а ў некаторых з іх такая сістэма ўжо працуе), што іракскія Узброеныя сілы будуць падтрымліваць парадак разам з намі. Ці магчыма, каб іракскае войска ў некаторых месцах вяло кантроль цалкам? Так, магчыма. Мы разважаем над гэтым пытаннем". Між тым прэзідэнт Францыі Жак Шырак пасля перамоваў у Берліне з канцлерам Герхардам Шродэрам заклікаў ЗША перадаць уладу ў Іраку самім іракцам ужо ў бліжэйшыя некалькі месяцаў.

## Іспанскі прэм'ер назваў Лівію важным партнёрам у гандлі і інвестыцыях

ТРЫПАЛІ. Іспанскі прэм'ер-міністр Хосэ Марыя Азнар назваў Лівію важным партнёрам у гандлі і інвестыцыях. Азнар прыбыў з візітам у Лівію ўчора і ўжо меў перамовы з лівійскім лідэрам Муамарам Кадафі. Візіт іспанскага прэм'ера ў Трыпалі стаў першым візітам заходнееўрапейскага кіраўніка пасля таго, як ААН ўвяла санкцыі супраць Лівіі за датычнасць лівійскіх спецслужбаў да выбуху амерыканскага авіялайнера над Шатландыяй. У мінулую пятніцу ААН зняла санкцыі з Лівіі, бо тая пагадзілася выплаціць кампенсацыю сем'ям загінуўшых.

## Адзін з арганізатараў выбуху на Балі асуджаны да пажыццёвага зняволення

БАЛІ. Інданезійскі суд прыгаварыў да пажыццёвага зняволення Алі Імрона. Яго прызналі вінаватым у арганізацыі тэракта на востраве Балі. Абвінавачанне ўзяло пад увагу пакаянне злачынцы і прапанавала асудзіць яго на 20 гадоў зняволення. Два дні таму апеляцыйны суд пацвердзіў смяротны прыгавор, вынесены раней яшчэ аднаму арганізатару тэракта — Амрозі бін Нурхасіму. Выбух на Балі адбыўся 12 кастрычніка летась. Яго ахвярамі сталі 202 чалавекі, пераважна — замежныя турысты.

*Радыё "Свабода".*

## Хусейн предрешил исход войны

*Бывший министр информации правительства Саддама Хусейна Мохаммед Саед аль-Сахаф заявил, что исход военной операции США в Ираке был во многом предрешен тактической ошибкой, совершенной самим Саддамом Хусейном. Именно она позволила США без особых жертв и в удивительно короткие сроки справиться с армией, столь грозно выглядевшей на телеэкранах.*

По словам Аль-Сахафа, эта ошибка была совершена за пять дней до начала военной операции США: тогда Хусейн принял решение разделить Ирак на четыре военные зоны, во главе которых были поставлены гражданские лица.

Это решение привело к "фатальным ошибкам", поскольку военные оказались на вторых ролях. Зоны фактически управлялись сыном Хусейна Кусаем, а также помощниками экс-президента — Али Хасаном аль-Махидом и Иззатом Ибрахимом. Мнение военных экспертов в этой ситуации не имело статуса решающего.



Аль-Сахаф высказался и по поводу запрещенных видов оружия, ставших главным аргументом США и Великобритании в пользу войны: все оно было уничтожено еще во время войны в Персидском заливе в 1991 году.

Ожидается, что аль-Сахаф станет источником и других фактов об Ираке и его правителе — впереди очередные серии программы "Война с аль-Сахафом": популярный министр информации теперь станет известен как уникальный источник сведений об Ираке.

Прежде он успел прославиться курьезными репортажами о победах армии Хусейна, по времени совпавших с вхождением в Багдад войск США.

**Наталья ГАК.**

# Генерал НАТО метит в президенты

***Авторитетный американский военачальник Уэсли Кларк, командовавший силами НАТО во время операции в Косово, принял решение об участии в президентской гонке: своего кандидата на пост президента США выдвигает Демократическая партия. Ожидается, что вскоре генерал официально объявит о своем решении.***

О решении Кларка стало известно со слов его помощников. Между тем генерал стал десятым кандидатом от демократов: кроме него уже девять представителей этой партии рассчитывают сменить Джорджа Буша на президентском посту.

Кларка отличает от них одно существенное обстоятельство: его критика нынешней политики руководства страны звучит куда весомей, поскольку этот кандидат является боевым генералом с весомым послужным списком.

Кларк имеет награды за участие во Вьетнамской войне, на его счету — командование силами НАТО в косовской кампании.

**Алена ДАШКЕВИЧ.**

У СОСЕДЕЙ

# Украина пошла в прорыв

*Социально-экономическое развитие за период январь—август 2003 г.*

Как свидетельствует статистика, свободный бюджет по доходам за январь—август выполнен в сумме 45,921 миллиарда гривен (65,7% годового задания), что на 7,340 миллиарда гривен или на 19% больше прошлогоднего. Причем доходы бюджета возрастают быстрее ВВП, что свидетельствует об улучшении дисциплины налогоплательщиков и положительном влиянии структурных реформ в экономике.

В результате в государстве нет задолженности по выплатам текущих социальных платежей, существенно сокращаются долги прошлых лет. Собственно, остались только долги по "чернобыльским выплатам", и они сокращены с начала года на 413 миллионов гривен.

В январе—июле 2003 года заработная плата выросла на 15,3% по сравнению с прошлогодним периодом, а реальные доходы населения увеличились на 6,8%. На фоне компенсационного после дефляции 2002 года роста индекса потребительских цен — всего на 2,7% — это означает абсолютное увеличение покупательной способности на внутреннем рынке. Средства физических лиц на банковских счетах в целом увеличились на треть (33%)! То есть "запас прочности" экономики, обеспеченный правительственной политикой, скомпенсировал и июльский прыжок цен на продовольственные товары и сокращение объемов урожая зерновых (13 млн.тонн).

Экономика сработала на укрепление положительной тенденции: наибольший прирост производства дали области, которые выпускают продукцию конечного потребления для внутреннего рынка: машиностроение — 30,7%, пищевая промышленность — на 20,5%, выпуск товаров народного потребления — на 19,8%. Соответственно на 18,1% вырос розничный товарооборот.




Параллельно с экономическим ростом сокращается безработица — до 3,6 в августе в этом году.

Благодаря активной правительственной политике по либерализации налоговой системы, которая стимулирует частную инициативу, создание рабочих мест, детенизацию экономики, можно ожидать ускоренной легализации доходов граждан. По расчетам Минэкономики, только вследствие применения в 2004 году 13-процентной ставки подоходного налога граждан может быть выведено из тени свыше 2 миллиардов гривен заработной платы.

Новое качество государственной экономической политики можно оценить и по тому, что абсолютный экономический рост в этом году вдвое превысил прошлогодний уровень. Реальный рост ВВП в январе—июле 2003 года составил 5,1%, а промышленного производства — 13,8%.

Номинальный объем прибыли предприятий за полгода возрос на 40%, а убытки уменьшились на 12%. В свою очередь это существенно повлияло на дисциплину расчетов за отгруженную продукцию. Впервые начала сокращаться просроченная дебиторская и кредиторская задолженность предприятий: на 6,8% и 3,4% соответственно. Объем бартерных расчетов уменьшился до 2,1% — в четыре раза по сравнению с 2001 годом.

Объем инвестиций в основной капитал за первое полугодие 2003 года реально вырос на 27,8%, прирост иностранного капитала составил 10,5%. Банковские кредиты в экономику за январь—июль возросли на 26,3%, причем в национальной валюте большими темпами — на 29%. А для субъектов предпринимательской деятельности объем кредитов вырос на 53,6%.

Характерно также, что наибольший прирост валовой добавленной стоимости отмечен в строительстве на 23,5% и в обрабатывающей промышленности — на 15,5%. Очевидно, что происходит создание базы постоянного экономического роста на будущее.

Положительная тенденция роста экономики была поддержана ускорением развития среднего и малого бизнеса. На протяжении 8 месяцев 2003 года количество малых предприятий увеличилось на 5%, а среднегодовое количество занятых на них на 1 апреля 2003 года увеличилось на 17,9 тыс. лиц в сравнении с соответствующим периодом 2002 года.

Положительное сальдо внешней торговли сохраняет стабильным курс гривны.

В январе—июне 2003 года положительное сальдо счета текущих операций платежного баланса составляло 1,8 млрд. долларов США и увеличилось по сравнению с соответствующим периодом 2002 года на 22%.

Рост положительного сальдо внешней торговли, увеличение прямых иностранных инвестиций в Украину обеспечили превышение предложения валюты над спросом на межбанковском валютном рынке и позволили Нацбанку увеличить объем международных валютных резервов до 6,5 млрд.долларов США (по состоянию на 01.08.03 г.), что может обеспечить финансирование импорта товаров и услуг на протяжении более трех месяцев.

Украина продолжает борьбу за перспективные рынки, активно продвигаясь к присоединению ко Всемирной торговой организации и стремясь создать зону свободной торговли с Беларусью, Казахстаном и Россией.

Главными итогами социально-экономического развития Украины за восемь месяцев, таким образом, можно считать ускорение экономического роста, ориентированного на повышение жизненного уровня людей, прорыв в структурных экономических реформах, накопление ресурсов для повышения уровня социальной защиты, неуклонное улучшение суверенного кредитного райтинга Украины на международных рынках.

*Пресс-служба Посольства Украины в Республике Беларусь.*

